


# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА

№ 40 (1075) БЕЛАСТОК 3 КАСТРЫЧНІКА 1976 г. ЦАНА 60 гр.

**Пуцяводныя думкі**

Глыбокія думкі — гэта жалезныя цвікі, увагнаныя ў розум так, што нічым не вырваць іх.

*Д. Дзідро*

Тры шляхі вядуць да ведаў: шлях роздумаў — гэта шлях самы высакародны, шлях пераймання — гэта шлях самы лёгкі і шлях доследу — гэта шлях самы горкі.

*Канфуцый*

Нельга паставіць на калені таго, хто прывык поўзаць.

*М. Ген*

## У атмасферы карпатлівай працы

Дзень сонечны, гарачыня, быццам летам. Нягледзячы на гэта, на ўраджайных палях паабапал дарогі ў Чыжы адчуваецца ўжо подых восені, бо сяляне заняты тут капаннем бульбы.

Гэтае наваколле ў даўнейшым Гайнаўскім павеце славілася найлепшымі ўраджаямі. Дык невыпадкова выбраўся я ў Чыжоўскую гміну, каб пагутарыць аб справах, якія разглядаў Цэнтральны Камітэт нашай партыі ў час апошняга пленума, прысвечанага асноўным праблемам нашай вёскі.

Начальнік **Васіль Новік** паклікаў на дапамогу сакратара **Рыгора Мацкевіча.**

—Як бачыце, — звярнуўся я да іх, — свае заданні ў святле пастаноў апошняга пленума ЦК ПАРП?

— Істота гэтых пастаноў, — сказаў начальнік Новік, — у маім разуменні зводзіцца да таго, каб даць дзяржаве больш збожжа і мяса, каб старанна загаспадарыць кожны кусочак зямлі, каб спраўна працавала сельскагаспадарчая тэхніка. А гэта ж штодзённыя нашы клопаты.

— Ужо здаўна, — гаворыць начальнік, — нашы сяляне спецыялізуюцца ў вырошчванні прамысловых сельскагаспадарчых культур, асабліва рапаку (рапсу) і ільну.

— У гэтым годзе, — папаўняе сакратар, — было ў нас амаль 1000 га рапаку і звыш 800 га ільну.

Сапраўды, куды б я не ехаў: са Збуча ў Чыжы, з Чыжоў у Ляды, Койлы, Лянева і назад аж у Мора і Крывяцічы, — усюды сустракаў вазы, нагружаныя ільняной саломай. Доўгімі абозамі цягнуліся яны на скупачныя пункты. За тону такой саломы гаспадар атрымоўвае найменш 400 зл. А калі лён доўгі, валакністы, з добрым насеннем, дык і цана яго вышэйшая.

— Ёсць у нас, — адзначае начальнік, — такія гаспадары, як Уладзімір Лукашук за Збуча, які ў гэтым годзе пасеяў звыш 5 гектараў рапаку.

— А Курашава, — нагадвае сакратар.

— Там у нас асноўная база фруктаў і агародніны, — інфармуе начальнік. — Яблыкі, грушы, памідоры, гуркі... Браты Анішчукі маюць у Курашаве аж двухгектаровыя сады.

— А Язэп Паўлючук са сваімі аднавяскоўцамі заснаваў там сялянскую суполку па вырошчванню агародніны.

— У многіх курашаўцаў свае, спецыяльна абсталяваныя склады, у якіх перахоўваюць яны яблыкі і грушы аж да вясны.

— А гуркі соляць яны ў бочках і таксама хаваюць на пазнейшы час.

Добрым, дбайным гаспадарам, якія праяўляюць пастаянныя намаганні, каб пашыраць сельскагаспадарчую вытворчасць, гмінная ўлада ў Чыжах у межах існуючых магчымасцей стараецца ўсяляк дапамагаць. Між іншым, для такіх сялян спулдзельня сельскагаспадарчых гурткоў перадае ў супольнае карыстанне ўкамплектаваныя трактары. У Койлах такой групай земляробаў кіруе Васіль Шпілько, у Шастакове — Сяргей Паўлоўскі, у Моры — Ян Масальскі, у Збучы — Аляксей Саўчук.

Для гэтых сялян гміннае праўленне ў першую чаргу выдае таксама прыдзелы на розныя будаўнічыя матэрыялы.

— Дагэтуль, — звяртаюся да маіх субяседнікаў, — нічога вы не сказалі аб вашых намерах у галіне жывёлагадоўлі, а гэта ж цяпер праблема вельмі важная, якой у час апошняга пленума прысвечана было шмат увагі.

— Стараемся стымуляраваць жывёлагадоўлю ва ўсіх яе адгалінаваннях, даючы аднак першынство гадоўцам свіней і авечак, калі яны могуць у асноўным абяспечыць свае жывёлагадоўчыя фермы ўласнымі кармамі.

— Маем тут добрыя прыклады, — папаўняе сакратар Мацкевіч, — вось Пётр Фарсюк з вёскі Клейнікі развёў ужо сваю авечую ферму да 200 штук і хоча яе яшчэ падвоіць.

— Толькі дзеля гэтага, — гаворыць начальнік, — неабходна яму пабудаваць спецыяльную аграмадную аўчарню. І тут пачынаецца бяда, бо ніяк не можам знайсці прадпрыемства, якое захацела б хутка выканаць гэтую працу.

— Яўген Грыгарук з Курашава, — гаворыць далей сакратар Мацкевіч, — спецыялізуецца ў свінагадоўлі. Гэта малады, энергічны гаспадар. Абяспечылі мы яго машынамі, дапаможам яшчэ прыдбаць яму крыху зямлі з дзяржаўнага фонду, каб меў дзе рыхтаваць уласны корм для сваіх свінак...

— Бо цяпер, — сцвярджае начальнік, — даем мы першынство выключна тым гаспадарам, якія абяспечваюць уласны корм для жывёлы. Таму менавіта рашылі мы ліквідаваць свінаферму ў Лясуты з Курашава, бо ён карыстаўся толькі дзяржаўнымі кармамі.

Пасля гэтай гутаркі з начальнікам Чыжоўскай гміны пабываў я ў многіх вёсках гэтага наваколля. Усюды наглядалася карпатлівая, дбайная, спакойная праца сялян. І гэта самая лепшая гарантыя, што пастановы апошняга пленума ЦК ПАРП будуць прыменены ў жыццё.

**Віктар Рудчык**



*Бульбакапанне.* *Фота Р. Сянько.*

## Новы год у Белліцэі

Верасень празвінеў першым званком і быццам бы ўсходам сонца абудзіў са сну сярэднія школы. Зноў дзесяцімесячны дзень. Ажылі класы, зашумелі калідоры. Усюды вясёлы гоман.

Сёння мы ў Агульнаадукацыйным ліцэі імя Б. Тарашкевіча ў Бельску.

Для 132 вучняў верасень быў зусім нечым новым. Яны зрабілі першы сур'ёзны крок у сваім жыцці. Зачынілі за сабой дзверы пачатковай і адчынілі ды пераступілі парог сярэдняй школы. Новыя настаўнікі, новыя задачы. Іх папярэднікі супольнымі сіламі з настаўнікамі нядрэнную пралажылі дарогу. Калі ў навучальным годзе 1970/1971 перавод у наступныя класы быў каля 93,3%, то цяпер звыш 99,2%. Дзякуючы спрыяльнай, амаль хатняй, атмасферы і глыбокай крыніцы ведаў, з году ў год узрастае колькасць паступаючых. Зноў дзеля параўнання вернемся назад. Год 1974/1975. Калі тады было ўсіх вучняў 454, то ў гэтым ужо 490. З увагі на вялікую колькасць ахвотных вучыцца ў ліцэі дырэкцыя тры гады таму назад увяла па чатыры аддзелы аднаго класа. І так, у школе цяпер ёсць пятнаццаць аддзелаў. Аб высокім узроўні навучання гаворыць і тое, што на сто аднаго чалавека — экзамен на атэстат сталасці здало сто асоб, калі ў 1972/1973 годзе на 75 асоб здало толькі 56. Як бачым, плады навукі штораз лепшыя. Усе тыя, што пакінулі сцены ліцэя, вучацца далей, з чаго большасць у вышэйшых навучальных установах. А ёсць і такія, якія не мусілі здаваць уступных экзаменаў, перад якімі ліцэй адкрыў усе дзверы. У мі-

(Працяг на стар. 4)



*Маката з мануфактур Тызенгауза на Гродзеншчыне.*

## „Ты тчэш, бязвольная рука...”

У Акруговым музеі ў Беластоку 9 верасня г.г. адкрылася выстаўка **„Тканіна і вопратка ў Польшчы XVIII стагоддзя“**, на якой паказваюцца каля 40 экземпляраў рознай вопраткі і ўзораў тканіны з той эпохі Рэчы Паспалітай. Экспанаты выстаўкі паходзяць са збораў Нацыянальнага музея ў Варшаве, дзе захоўваецца каля чатырох тысяч экземпляраў тканін і вопраткі з розных перыядаў гісторыі Польшчы і суседніх з ёю краін.

На выстаўцы экспануюцца самыя характэрныя для эпохі і найбольш цікавыя матэрыялы. Тут побач са сціплай, чорнага колеру, мяшчанскай „тарататкай“ красуюцца шыкарныя, падбітыя атласам, вялікапанскія „контушы“. Зрок прыцягвае шыкоўная сукенка баранесы генеральшы Растboard — Расткоўскай, у якой тая прысутнічала на цырымоніі каранацыі Станіслава Аўгуста на караля польскага. У спецыяльнай габлёце знаходзіцца каля дваццаці тканых залатой або сярэбранай ніткай па шоўку мужчынскіх паясоў, сярод іх пояс з мануфактуры магнатаў Агінскіх з Сакалова на Падляшшы, а таксама пояс, якім падпярэзваўся славуты польскі драматург Аляксандр Фрэдра. Зразумела, што выстаўка не магла абысціся без славутых беларускіх слуцкіх паясоў. Ад іншых яны адрозніваюцца асабліва стараннным выкананнем і густоўнымі ўзорамі, дзе, кажучы словамі нашага выдатнага паэта М. Багдановіча: „цвяток радзімы васілька“ з'яўляецца не такім ужо і рэдкім матывам.

У ліку дэкаратыўных тканін пераважаюць макаты. Частым узорам на іх з'яўляецца „дрэва жыцця“ — спрадвечны ўсходні матыў. Аграмадны, на ўсю сцяну, габелен з арабескамі і элементамі ўсходняй архітэктуры паходзіць з варштату польскіх армянаў. Уражаюць багаццем і каларыстыкай макаты і габелены з вядомых ва ўсёй тагачаснай Еўропе мануфактураў Тызенгауза на Гродзеншчыне.

— Польшча XVII-XVIII стагоддзяў была месцам сутыкнення мастацкіх і тэхнічных здабыткаў Усходу і Захаду, — падкрэсліла мгр **Ядвіга Хрушчынская**, кіраўнік аддзела тканін Нацыянальнага музея, якая прысутнічала на адкрыцці выстаўкі ў Беластоку, — адтуль такое багацце і разнастайнасць тканін у нашым краі ў тым часе. Аднак трэба падкрэсліць, што нашыя майстры не

(Працяг на стар. 5)

## ШТО НОВАГА?

# ГРАБЕЖНІКІ І НАВОДЧЫКІ

Егіптолагі сцвярджаюць, што прафесійныя грабежнікі ў старажытным Егіпце з'явіліся тады, калі быў уведзены звычай пахавання фараонаў у грабніцах. Ва ўсялякім разе, цяперашнія археолагі, адкрываючы старажытныя пахаванні, часцей за ўсё з сумам пераконваюцца, што ў іх добра „пакорпаліся" папярэднікі, якія ставілі перад сабой зусім не навуковыя мэты. Ні хітрыя пасткі, прыдуманыя будаўнікамі пірамід, ні строгія законы жрацоў не маглі спыніць дзёрзкіх апаганшчыкаў магіл, якія бессаромна прысвойвалі каштоўнасці, талісманы і проста прадметы быту, прызначаныя для сыноў Сонца ў замагільным свеце.

Даўным-даўно, калі грабежнікаў было яшчэ мала, а фараонаў і адпаведна грабніц хапала, нелегальная „археалогія" прыносіла даход і, трэба думаць, немалы. Але потым справы пайшлі горш і горш.

Жарты жартамі, а наводчык, уявіце сабе, знайшоўся. І не які-небудзь стары хавальнік легенд, а чалавек быццам бы кампетэнтны — журналіст Гамаль эд-Дзін аль-Хамамсі. У газеце „Аль-Ахбар" — адным з вядучых каірскіх выданняў не так даўно з'явіўся яго артыкул, у якім сцвярджалася, што былы прэзідэнт Гамаль Абдэль Насер быццам бы прысвоіў 15 мільёнаў долараў. Некаторыя расцанілі „адкрыццё" аль-Хамамсі як здзек з памяці вялікага егіпцяніна, некаторыя — як даніну модзе (паказаць кукіш нядаўняму мінуламу).

Той-сёй, аднак, задумаўся і пачаў з цікавасцю пазіраць на маўзалей егіпецкага лідэра: ці не схаваны і сапраўды за яго сценамі прысвоеныя багацці?

Так ці інакш, але прыляцела з Каіра сенсацыйнае паведамленне: маўзалей аграблен. Долараў, праўда, не знайшлі. Здабыча, паводле сведчання штотыднёвіка „Роз-эль-Юсеф", аказалася даволі сціплай, і ўся гісторыя ператварылася ў кашчунны фарс. „Прабраўшыся ў маўзалей, — піша часопіс, — зладзеі ўкралі дыван і тры вазы. Аб крадзяжы стала вядома ад прадаўца кавуноў, які спаў непадалёк на зямлі. У цемры грабежнікі не заўважылі чалавека і выпадкова паклалі на яго дыван і разбудзілі. Вартавы каля маўзалея заявіў, што грабежнікі былі апрануты ў доўгае белае адзенне, з выпацканымі белай фарбай тварамі. Таму ён прыняў зладзеяў за анёлаў.

Магчыма, салдат і сапраўды аказаўся чалавекам забабонным, магчыма, схлусіў з перапуду — хто разбярэ. Пра аль-Хамамсі такога не скажаш — яго буйнакаліберная хлусня добра абдумана і, трэба меркаваць, нядрэнна аплачана.

## ПРАЗ ТЫДЗЕНЬ У "НІВЕ"

**Настаўніца роднай мовы ● Мэбля з Супраслі ● Дзіцячы сад у Мінску ● Славянскае золата ● У пчаляра і паляўнічага ● Кляшчэлеўскія пажарнікі ● Шудзялаўскія праблемы ● Старынскі каравай ● Культура ў пушчанскім сяле ● Весткі з Васількова, Гарадка, Нараўкі, Рудут, Кашалёў, Семяноўкі, Бельска, Дубіч Царкоўных, Чаромхі ● Калі сняцца грыбы ● Песня „Kapitańskie tango".**



*Прадукцыя завода.* *Фота Э. Трыгубовіча*

**КАРЭСПАНДЭНЦЫЯ З МІНСКА**

# БЕЛАРУСКІЯ ГАДЗІННІКІ

Нядаўна, напярэдадні шлюбу сябра, у пошуках падарунка я зайшоў у цэнтральны універсальны магазін „Мінск". Каля аднаго з аддзелаў я ўбачыў шмат людзей. Аказваецца, тут зроблена выстаўка — продаж гадзіннікаў айчыннага вырабу. Падыходжу бліжэй да прылаўка. У вочы адразу ж бліснула серабрыста-залатое святло „Палётаў", „Ракет", „Секунд", „Балтык" і „Пабед"... Выбар вельмі багаты. Але найбольшую ўвагу пакупнікоў і маю таксама прыцягвалі вітрыны з вырабамі Мінскага гадзіннікавага завода „Прамень". Сваёй дакладнасцю, надзейнасцю, прыгажосцю беларускія гадзіннікі даўно заваявалі права на павышаны попыт.

Механічныя і электронна-механічныя, са стрэлкавай індыфікацыяй і аўтаматычным падзаводам, з цэнтральнай секунднай стрэлкай і календаром, супрацьударныя, квадратныя, круглыя, авальныя і ў форме цыбуліны, з чырвонымі, белымі і сінімі цыферблатамі, у залатым, пазалочаным, сярэбраным карпусах, жаночыя і мужчынскія гадзіннікі задавальнялі кожны густ. Яны разыходзіліся хутка. І я паспяшаўся купіць адзін з іх. Мой падарунак вельмі спадабаўся сябру.

Высока цэняцца мінскія гадзіннікі не толькі на ўнутраным рынку. Іх ахвотна купляюць у 17 краінах свету — Польшчы, Чэхаславакіі, ГДР, Англіі, Італіі, Канадзе, Аўстраліі, Бразіліі... З 17 мільёнаў гадзіннікаў, выпрадукаваных у мінулай пяцігодцы, амаль 4 мільёны высланы за граніцу.

А ўсяго цяпер Мінскі гадзіннікавы завод выпускае 7 мадыфікацый гадзіннікаў „Луч" — у 130 варыянтах афармленняў. Адной з мадыфікацый — „Луч-1809" у сямі афармленнях і гадзінніку для аўтамашыны „Жыгулі" прысвоены дзяржаўны Знак якасці. 10 варыянтаў афармленняў узнагароджаны дыпломамі мастацка-тэхнічнага савета навукова-даследчага інстытута гадзіннікавай прамысловасці, 9 — дыпломамі выставак дасягненняў народнай гаспадаркі БССР. Гадзіннікі мінскай маркі заваявалі „Гран пры" на выстаўцы ў Парыжы і Вялікі залаты медаль на Лейпцыгскім кірмашы.

Рабіць такія ясныя і прыгожыя вырабы можна толькі, вядома, на сучасным, з высокай культурай вытворчасці, абсталяваным па апошняму слову тэхнікі прадпрыемстве. Такім і з'яўляецца Мінскі гадзіннікавы завод.

У дзевятай пяцігодцы (1971-1975 г.г.) тут было праведзена тэхнічнае пераабсталяванне. У выніку гэтага ступень механізацыі і аўтаматызацыі вытворчых працэсаў склала ў 1975 годзе 57 працэнтаў. Гэта значыць, што 80 працэнтаў рабочых выкарыстоўваюць у працы механізмы. Прычым абсталёўваецца такая тэхніка, якая не толькі павышае прадукцыйнасць працы, але і аблягчае яе. У зборачных цэхах, напрыклад, уведзены новыя канвеерныя лініі. Яны ўносяць розніцу ў рытм працы і абніжаюць псіхалагічныя нагрузкі.

Клапоцяцца аб рабочых і многія іншыя прадпрыемствы. У завадскіх карпусах, якія, дарэчы будзе сказаць, гарманічна ўпісваюцца ў архітэктуру галоўнай магістралі беларускай сталіцы — Ленінскага праспекта, — поўна святла і ідэальная чысціня. Выгадныя рабочыя месцы, пакоі адпачынку, у час змены падтрымліваецца аптымальны рэжым працы і адпачынку. На заводзе ёсць сталоўка, добра абсталяваная паліклініка. Усе рабочыя знаходзяцца пад пастаянным лекарскім наглядам — вядуцца рэгулярныя праверкі, калі трэба, выдаюцца бясплатныя або ільготныя пуцёўкі ў санаторыі. Толькі ў 1975 годзе папраўілі сваё здароўе ў санаторыях, правялі водпуск у дамах адпачынку і на турысцкіх базах 1313 чалавек. А ў дзесятай пяцігодцы (1976-1980 гг.) з пабудовай заводскага прафілакторыя і спартыўнага комплексу гэта лічба значна павялічыцца.

Дзеці працуючых поўнасцю забяспечаны прадшколлямі і жлобкамі, месцамі ў піянерскім лагеры, моладзь — інтэрнатамі. У мінулай пяцігодцы многія працаўнікі атрымалі новыя памяшканні — было пабудавана 21 266 квадратных метраў жылля. Вялікае жыллёвае будаўніцтва будзе весціся і ў бліжэйшыя пяць год.

Калектыў прадпрыемства, натхнёны гістарычнымі рашэннямі XXV з'езду КПСС, прыняў павышаныя абавязацельствы — зрабіць у дзесятай пяцігодцы больш 22 мільёнаў гадзіннікаў „Луч".

**В. Рыбіцкі**

## ХРОНІКА

■ 4 верасня ў Гайнаўцы на аглядзе культурнай актыўнасці працоўных выступілі і калектывы БГКТ: танцавальны з Белавежы і харавы з Дубяжына.

■ 5 верасня калектыў песні і танца „Белавежа" з Белавежы выступаў на мясцовых гмінных дажынках у Будах.

■ 5 верасня актыў гарадскога клуба БГКТ у Беластоку выязджаў на нядзельны адпачынак на Нарву ў ваколіцы вёскі Рыбакі.

■ **8 верасня Сакрат Яновіч і Ян Чыквін правялі супольную аўтарскую сустрэчу ў беларускім ліцэі ў Бельску.** Затым Сакрат Яновіч чытаў свае творы і адказваў на шматлікія пытанні ў пачатковай школе № 3 у Бельску і ў вясковым клубе у Міклашах (гміна Орля), а Ян Чыквін — у школе ў вёсцы Пасынкі (гміна Бельск) і ў клубе ў Крывяцічах (гміна Орля).

■ 10 верасня старшыня ГП Мікалай Самоцік і член прэзідыума Аляксандр Іванюк супольна з дырэктарам мясцовай школы Анатолем Такаюком сустрэліся з бацькамі 2 і 3 класаў у Кляшчэлях і абмяркоўвалі справы навучання беларускай мовы.

■ 12 верасня на гмінных дажынках выступалі калектывы БГКТ „Каласкі" з Беластока і жаночы хор з Гарадка — у вёсцы Калодна (гміна Гарадок), харавы калектыў з Дубяжына і эстрадная група з Плёсак — у вёсцы Кнарыды (гміна Бельск), а харавы калектыў з Орлі выступаў у Орлі.

(мх)

## TELEWIZJA WARSZAWA

**Sobota 2.X.** 6.45 Radiowo-Tel. Szk. Śred. Mat. 7.15 Mech. rol. 7.50 Tech. Rol. Fiz. 8.20 Upr. rośl. 8.55 Pr. dnia. 9.00 Dla szkół (kl. VIII) Nauka o czł. Człowiek — gatunek biologiczny. 9.30 Red. Szk. zap. 9.40 Za kierownicą. 10.00 Dla szkół (kl. VIII) Zool. Prymitywne tkankowce. 10.30 Chińska waza — film fab. węg. 11.20 Przegląd polonijny. 12.00 STUDIO 2. 19.10 Dobr. 19.30 Dzien. 20.20 d.c. STUDIO 2.

**Niedziela 3.X.** 6.25 Tech. Rol. Fiz. 6.55 Upr. rośl. 7.25 Kurs Rol. 8.00 Przyp., radz. 8.10 Now. w domu i zagr. 8.35 Wiad. sport. 8.40 Sport dla wszyst. 8.55 Pr. dnia. 9.00 TELERANEK. 10.20 Antena. 10.45 Opowieść o Rustamie — film fab. radz. cz. I. 11.55 Piórkiem i węglem. 12.20 Dzien. 12.40 Z kamerą wśród zwierz. 13.15 Dla dzieci: Botafogo — wid. Teatru Lalk. 14.05 Słynne bitwy — film dok. fr. — Wojna Trojańska. (kolor) 15.00 Los. Duż. Lot. 15.15 Wielka gra. 16.15 Opowieść o ludzkim sercu — film fab. ZSRR. 17.20 Sport. 19.15 Wieczor. 19.30 Dzien. 20.20 Bajka dla dor. 20.30 Odgłosy wojny — film ser. ang. (Wojna i pokój). 21.15 Spotk. z gwiazdą — MICHEL DELPECH. 22.20 Sport.

**Poniedziałek 4.X.** 12.45 Radiowo-Tel. Szk. Śred. Hist. 13.25 Tech. Rol. Hod. zwierz. 15.50 NURT. 16.25 Pr. dnia. 16.30 Dzien. 16.40 Obiektyw. 17.00 Zwierzyniec. 17.55 Po prostu życie — film ser. 19.00 Echo stad. 19.20 Dobr. 19.30 Dzien. 20.20 Teatr TV: J. Bliziński — Rozbitki. 22.15 Dzien.

**Wtorek 5.X.** 6.00 Radiowo-Tel. Szk. Śred. Hist. 6.35 Hod. zwierz. 8.10 Odgłosy wojny — film ser. ang. 9.00 Dla szkół (kl. V—VI) J. pol. M. Konopnicka. Józik Srokacz. 10.00 (kl. I—III) Czerw., żółte, ziel. 12.00 (kl. IV lic.) L. Kruczkowski. Pierwszy dzień wolności. 13.45 Tech. Rol. J. pol. 14.30 Chem. 16.25 Pr. dnia. 16.30 Dzien. 16.40 Obiektyw. 17.00 Spotk. przy fort. RYSZARD POZNAKOWSKI. 17.40 Studio Mł. 18.30 Przed ekranem. 19.00 Liryka po hiszpańsku. 19.15 Przyp., radz. 19.20 Dobr. 19.30 Dzien. 20.20 Gwiazdy Sopotu. 20.45 Legenda o Paulu i Pauli — film fab. NRD. 22.25 Dzien.

**Środa 6.X.** 6.00 Tech. Rol. J. pol. 6.30 Chem. 8.00 Film fab. 11.05 Dla szkół (kl. VIII) Fiz. Prąd elektr. 12.00 (kl. VII—VIII) Wych. plast. Malarstwo. 12.45 Radiowo-Tel. Szk. Śred. Chem. 13.25 Upr. rośl. 15.50 NURT. 16.25 Pr. dnia. 16.30 Dzien. 16.40 Obiektyw. 17.00 Dla dzieci 17.30 Los. Mał. Lot. 17.45 Lektury Peg. 18.00 Godzina Beaty Tyszkiewicz. 19.00 Pr. muz. 19.20 Dobr. 19.30 Dzien. 20.20 Czapajew — film fab. radz. 22.00 Dzien. 22.15 Wieczorny gość — PIOTR FRONCZEWSKI.

**Czwartek 7.X.** 6.00 Radiowo-Tel. Szk. Śred. Chem. 6.30 Upr. rośl. 7.30 Czapajew — film fab. radz. 9.00 Dla szkół (kl. VIII i I lic.) Przysp. obr. Współcz. broń. 11.05 (kl. III lic.) J. pol. Tetmajer-Kasprowicz-Staff. 13.45 Tech. Rol. Mat. 14.30 Hod. zwierz. 16.25 Pr. dnia. 16.30 Dzien. 16.40 Obiektyw. 17.00 Ekran z bratkiem. 18.15 Poligon. 18.30 Nepal. 19.00 Pr. muz. 19.15 Przyp., radz. 19.20 Dobr. 19.30 Dzien. 20.20 Teatr Sensacji: F. Durbridge — Brutalna gra odc. II. 21.20 Pegaz. 22.05 Dzien.

**Piątek 8.X.** 6.00 Tech. Rol. Mat. 6.30 Hod. zwierz. 8.30 Ruchomy front — film fab. radz. 10.00 Dla szkół (kl. VI) Geogr. Z dziejów geolog. Polski. 11.05 (kl. II) Czarodziejskie słowa. 12.45 Radiowo--Tel. Szk. Śred. Biolog. 13.25 Tech. Rol. Mech. rol. 15.50 NURT. 16.25 Pr. dnia. 16.30 Dzien. 16.40 Obiektyw. 17.00 Dla dzieci 17.30 Latający Holender. 18.00 Prawdy i legendy przyrody — film dok. fr. 19.20 Dobr. 19.30 Dzien. 20.20 Bielszy niż śnieg — film pol. 20.55 W starym kinie. 21.15 Łódzkie spotk. balet. 22.05 Dzien.

## ТЭЛЕВІЗІЯ МІНСК

**Piątek 1.X** — 8.15 Film fab. 9.20 Koncert. 13.05 Koncert. 14.05 Film fab. 17.50 Film ser. 21.10 Koncert estrad.

**Sobota 2.X** — 8.30 Film ser. 11.45 Film fab. 12.50 Hokej. Dynamo (Moskwa) — Dynamo (Ryga). 14.45 Piosenki M. Muradellego. 15.00 Nie do wiary. 16.15 Filmy anim. 17.15 Ameryka. 19.30 Złota nuta. 20.30 Międzynar. zaw. w gimn. art.

**Niedziela 3.X** — 12.00 Koncert. 12.45 Hokej. Spartak — SKA 2 i 3 tercje. 15.30 Filmy anim. 16.15 Klub film. 17.15 Piosenki komp. radz. 17.35 Film fab. 20.50 Piłka wodna.

## КІНО

**Białowieża** Żądło — USA 5—6. Nieśmiertelni — radz. 7—8. Miłość bywa zbrodnią — wł. 9—10.

**Dubicze Cerkiewne** Szary okrutnik — radz. 6—10.

**Gródek** Żądło — USA 9—10.

**Michałowo** Rozerwany pierścień — radz. 5—6. Szczury Paryża — fr. 7—8. Charley Vallck — USA 9—10.

**Mielnik** Mniejszy szuka dużego — pol. 6. Mr. Majestyk — USA 9—10.

**Milejczyce** Na niebie i na ziemi — pol. 5—7.

**Narew** Szerokiej drogi kochanie — pol. Przygoda na wagarach — NRD 6—10.

**Narewka** Ostatni wiosenny śnieg — wł. Przeznaczenie ma imię Kamila — czes. 6—10.

**Nurzec** Ciemna rzeka — pol. 5—6. Nieposkromieni Hajducy — węg. 7—8. Dom — jug. 9—10.

**Orla** Gdzie jest jubilat — węg. Deps. — jug. 6—10.

**Rajsk** Zaklęte rewiry — pol. W drodze na Kasjopeję — radz. 6—10.

B.Z.Graf. Zam. 2049 F-4.

# БЕЛАВЕЖА

ОРГАН ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКАГА АБ'ЯДНАННЯ ПРЫ ГП БГКТ № 213


## БЛІЗКАСЦЬ ДАЛЁКАГА

### Першае

*Пейзаж, каханне,*
*Прамінанне майго быту. —*
*Дзве радасці мае*
*І боль адзін згарае.*
*Мы арандатары жыцця,*
*Яго наймітьі,*
*Бярэм на час*
*І назаўсёды пакідаем*
*Пейзаж, каханне —*
*Гэта вечныя праявы*
*Жыцця, якому на імя*
*Хвіліна толькі;*
*Кар'еры, зайздрасці, імкненні,*
*Грошы, слава,*
*Няма з вас радасці*
*І быць не можа толку.*
*Пейзаж, каханне,*
*Сустракаю вас я гімнам.*
*А прамінанню*
*Я элегію спяваю.*
*Як добра,*
*Што я бачыў зелень і жанчыну.*
*Як добра, што я жыў*
*І добра, што сканаю.*
*Пейзаж, каханне,*
*Лёт жыцця майго і ўпадак*
*У зелені бяроз,*
*А не ў хмяльной багеме.*
*Хацеў бы я вам праспяваць*
*І боль і радасць;*
*Хацеў бы вам злажыць*
*Зялёную паэму.*

### Другое

*Адну толькі маю зямлю —*
*Самотную, нібы дзіця.*
*Малюся лясному галлю,*
*П'янею ад песні трысця.*
*Прастор, падыдзі да мяне,*
*З цябе мая песня і сон.*
*Бліжэй, бліжэй мой канец*
*І боль развітання з вясной.*
*Ляжыць недакончаны верш*
*Пад плынню нясказаных слоў.*
*Сказаць пра зямлю перш-наперш,*
*Дык значыць упіцца святлом,*
*Ад промняў вясёлых сканаць,*
*Пайсці пад зямлю, новым зноў*
*Прабіцца, як прыйдзе вясна,*
*Зялёнаю явай і сном.*

### Трэцяе

*Кахаць без норм,*
*Кахаць без берагоў.*
*Кахаць — каб загубіць*
*і нарадзіцца,*
*Каб не было твайго,*
*Каб не было майго, —*
*Стацца бяздоннаю крыніцай.*
*Прыкрыцца небам зорным*
*Без канца,*
*Вярнуць узятае,*
*Сваё аддаць без краю;*
*Шукаць, шукаць*
*Найцвёрдшага разца*
*І высечы на камені —*
*КАХАЮ.*
*Бо толькі ты, казання*
*Сіні знак,*
*Быў, ёсць і будзеш*
*Праўдай найпраўдзіўшай.*
*Магільны ўсіх ідэй*
*Расце курган.*
*А ты жывеш,*
*А ты навек расцвіўшы.*
*Цябе не знішчаць*
*Варвары, ні час,*
*Ні скептыкі, ні стоікі, эскеты;*
*Расце кахання дрэва*
*Сярод нас*
*І прыкрывае песняй ўсю планету.*

### Чацвертае

*У паводцы вятроў*
*Мой клён, як вясло.*
*Хутчэй і хутчэй*
*І ўвысь і ўдаль.*
*Як хлеб, неабходная*
*Магія слоў;*
*Астравы забыцця,*
*Святая вада.*
*Праклён, пажаданне,*
*Як бацька і сын;*
*Наперад няраз*
*Азначае назад.*
*Брыдота бывае*
*Дачкою красы;*
*Са сконам жыцця*
*Нейкі фатум звязаў.*
*Усё гэта попел,*
*Усё гэта зман —*
*Багаты мы толькі*
*Убоствам сваім.*
*Жывем мы дарма,*
*Уміраем дарма,*
*Ды любім нядарам*
*І зелень і сінь.*

**Алесь Барскі**

## ВЫРАЙ

Перад Спленнем акурат граблі атаву,
Нашы буслы жабаў шчэ збіралі.
Прыставалі на хвіліну, разгарталі крылы.
Ужо апошнія хвіліны перад вылетам у вырай.

Знаю, заўтра вас не ўбачу на бярозе.
Лёс буслiны — інстынкт дзікай птушкі.
Толькі крылам верыць у дарозе
І не ўпасці ў вадзяную смерць кіпучу.

Многа з вас не вернецца з дарогі,
Многіх з нас за гэты час не стане.
Нас аднолькава жыццё законам строгім
Ў нечаканасці вядзе і правярае.

Прага да жыцця мацней законаў.
А жыццё кароткае, як песня.
А жыццё аднолькава заве нас
Ў вырай лётаць, пакуль б'ецца сэрца.

**Уладзімір Гайдук**




*цябе*
*назвала я*
*Агніяй*
*хароша імя*
*мне і табе*
*адно забыла*
*а ўжо запозна*
*аддаць усё*
*шчасце*
*табе*
*не прыходзь да мяне*
*ў маіх думках*
*бясплодных*
*не кажы*
*ты забудзь тое ўсё*
*што дагэтуль было*
*не прасі*
*прабачэння*
*яго больш*
*ужо не будзе*

**Агнія**

* * *

Ты чароўная...
А д н а
Толькі ты памятаеш,
Як журботы хадзілі
За мной.
А д н а
Толькі ты адгукаешся,
Калі жду дапамогі,
Дабра!
А д н а
Толькі ты на прадвесні
Памятала,
Што трэба прыйсці...
Ты ласкавая, знаю,
Чакаеш
Ад мяне ўзнагароды,
Цяпла слоў.
Я не знаю, ці ты
Дачакаешся... мо пажадаць,
Мо ўстрымацца
трэба
У разгонцы
Душа да душы?..
Мо не братнія гэта
з'яўленні?
Мо не братнія,
Калі затрымоўваюся я?
Ты падумай,
Згарні ўсё у штабель
канкрэтаў,
Абдымі не мяне,
А ж ы ц ц ё,
Мо не хопіць нам двум
Энергіі?
Мо не хопіць...?
А тады што?
— Не паладзім —
Тады — два лёгкадумы,
Ашукаць не так лёгка
Жыццё.
Ашукаемся самі —
Тады нялёгка парадак наводзіць.

**Юрка Харкевіч**

### Вечар у Кіславодску

І вось збылося доўгае жаданне:
Цябе я мог тут першы раз абняць
І слухаць гукі сэрца трапятання,
Раскошна песціць, страсна цалаваць.

Сядзім мы ў парку на чупрыне горкі,
Прыкрыў нас змрок вячэрні
з вышыні,
А там унізе ззяюць, нібы зоркі,
З дамоў далёкіх цёплыя агні.

Ляжыць там горад здраўніц і
курортаў,
Цудоўны парк запоўнены людзьмі.
Яны там кружаць па яго аортах,
А мы ўвесь час з табою тут адны.

Адны, ды толькі птушкі ціхім спевам
Даюць нам знаць прыемна аб сабе,
А часам вецер радасным павевам
Зачэпіць нас і скрыецца ў траве.

Калі б быў месяц дзесь на небасхіле
І было неба чыста, як алмаз,
Тады б напэўна Эльбрус
снежнакрылы
Глядзеў бы сам зайздросліва на нас.

А так і ён нас нават не бянтэжыць
І больш аб нас ніхто не хоча знаць.
То першы вечар, што да нас
належыць.
Яго мы доўга будзем памятаць.

**Д. Шатыловіч**

* * *

Калі загіне сон
І ноч перастане быць ноччу
Калі рассыпецца над табой
зорнае неба
А зямля звулканіцца
Ты думаеш

Там маё месца
Дзе ходзяць цені маіх продкаў
Там маё месца
Дзе родная хата прыснула над
ракой
Там маё месца
Дзе блізкія дзеляцца духмяным
хлебам
А тут
Ты адкідаеш
Рассыпаеш як пясок
Свае думкі імкненні
Ты будуеш шкілет хаты
Якая згубіць цябе,

Ланцуг усё мацней
Цягне цябе да дна
Глыбокага мора
Мора людскіх спраў...

**Надзея Артымовіч**

## МАЛІТВА

*Мне многа не трэба*
*і трэба нямала...*
*Маланка і бура*
*былі б маім днём,*
*і думка, як ветразь,*
*жыцця човен гнала,*
*дзе чайка аб хвалі*
*не біла крылом.*
*Мне б толькі надзею,*
*трывогу і стойкасць...*
*О, божа, зялёны,*
*пачуй голас мой!*
*Бяры ты навекі*
*маю душу толькі,*
*дазволь ў тваіх нетрах*
*застацца сабой.*

**Міхась Шаховіч**

Карчма Моўшы ад самага рання бітком набіта новабранцамі ды праважацелямі. Усе пакоі, каморкі і бакоўкі заняты. Сталоў бракуе.

Сам Моўша, чуць золак ачухаўшыся ад сну, думаў сядзець пры акне увесь дзень, ды з неспадзёўкі змусіў яго да працы і раздавання селядцоў, рыбных клёцак, паўбутэлек і бутэлек...

Было клопату з падаваннем, а яшчэ больш са збіраннем платы.

Апроч Моўшы ў карчме працавалі жонка ягоная, старая кабета з чорным чапцом на галаве, і дачка, малая, мізэрная, з тоўстым гарбатым носам і пухла-тлустымі губамі, ды вялікімі буркулаватымі вачыма. Звалі яе Хайкелэ.

На яе найбольш і крычалі падпіўшыя бяседнікі.

— Хайкіла! Давай сюды гарэлкі! — крычаў асабліва часта Хрытон Аўсянік з Найдуноў, звольнены толькі што з войска па першай ільгоце.

Ён чуў яшчэ сябе моцным пасля пятай бутэлькі на трох. Ці то ягонае нутро было гэтак моцным на гарэлку, ці то гарэлка Моўшы была слабаватай, на-полы з вадой... толькі Хрытон крычаў на ўсю карчму:

— Хайкіла, хаб цябе!.. ці скора ты?!

Пры гэтым ён пацвярджаў свае словы ўсялякімі брыдкімі выразамі.

Хайкелэ круцілася як магла, каб дагадзіць.

. . . . .

Зближыўся вечар. Госці памалу выплывалі, а то і вывальваліся з карчмы, кіруючыся, па магчымасці, сваімі, ад гарэлкі бяссільнымі нагамі, хто куды.

Баруздзіў яшчэ за сталом зусім п'яны Хрытон са сваімі двума сябрамі. Неўзабаве, аднак, Моўша і іх выпрасіў за дзверы.




Пры падтрымцы сяброў высунуўся Хрытон з карчмы і разам з імі адразу зваліўся на снег. Пасля ўстаў (Моўша памог — дзякуй яму) і далей, далей пасунуўся па вуліцах места Лепля, кіруючыся да свае вёскі Найдуноў.

. . . . . .

Было ўжо цёмна. Пачыналася снежная завіруха не на жарт.

Ішлі ўтрох пяючы, лаючыся, чапляючыся платоў ды спатыканых мяшчанаў... Ішлі проста дамоў, у Найдуны.

. . . . . .

Во, ужо мінулі Місінарскі Крыж і далей, далей па вуліцы Нова-Чашніцкай сунуліся аж на выган... Яшчэ толькі пяць вёрст па глыбокім снежным бездарожжы. Мяце снегам віхар, круціць навакол, засыпае пад нагамі дарогу, лезе за шыю, сыпле ў вочы, як бы хочучы адстрашыць Хрытона і ягоных сяброў... але што! П'янаму мора па калені.

Адыйшлі ад Лепля паўвярсты. Сілы аслабелі. Пастанавілі адпачыць, селі. Дай глядзець асалавелымі вачыма па сабе і толькі цяпер агледзеліся, што няма Хрытона, — былі толькі ўдваіх.

— Дзе гэта ён?

Неўзабаве, аднак, забыліся пра Хрытона. Марыў іх сон. Кожны меркаваў сесці як лепей, як выгадней. У вачох мярэшчыліся ім Найдуны з роднымі і знаёмымі.

Віхар і мяцеліца круцілі, вылі, ігралі, весялілі ды баюкалі іх, сняжком падсыпалі ім пад сядзэнне, абкружалі

(Працяг на стар. 5)

(Працяг са стар. 1)

# НОВЫ ГОД У БЕЛЛІЦЭІ

нулым навучальным годзе чатыры асобы, здаўшы матуру, адразу атрымалі заліковыя кніжкі, з чаго адна была накіравана ў Савецкі Саюз. Які лёс цяперашніх 166-ці чацвёртакласнікаў — пакуль што яшчэ тайна. Але адно пэўнае, што тыя дваццаць пяць настаўнікаў, якія працуюць у ліцэі, прыкладуць усе свае сілы, каб перад сваімі выпускнікамі дзверы расчыніць, як найшырэй. Дырэкцыя стварае добрыя ўмовы для сваіх вучняў. Цудоўна абсталяваныя кабінеты. Вось хаця б матэматычны ці гістарычны, у якім уладзілі куточак памяці, аб тых, што загінулі ў барацьбе за лепшую будучыню. Выкладаюць вельмі добрыя настаўнікі-педагогі. Прыкладам могуць быць фізік Рыгор Анацік, матэматык Мікалай Красоўскі і многія іншыя. Так што дарога, якой пойдуць сёлетнія першакласнікі, напэўна не будзе дрэннай.

**М. Шаховіч**

Фота М. Хмялеўскага



*Урачыстасць адкрыў прамовай да вучняў дырэктар ліцэя Аляксей Карпюк. Прысутнічаюць: I сакратар гарадскога камітэта ПАРП Мікалай Хурса, інспектар асветы і выхавання Васіль Нядзведскі, старшыня ГП БГКТ Мікалай Самоцік.*



*А потым заспявеў дзявочы хор ліцэя пад акампанемент Сяргея Лукашука.*

Год 10-15 таму назад, а нават і зараз яшчэ, мае знаёмыя і спадарожнікі ў цягніках пыталіся: „Адкуль ты ведаеш беларускую мову? У вас у вёсцы ніхто ж так не гаворыць, ані ў сям'і?!"

І пачаў я расказваць сваім субяседнікам, як зараз і вам, чытачы.

Гэта было ў 1957 ці 58 годзе. Рэдакцыя „Нівы" арганізавала для сваіх чытачоў віктарыну, прысвечаную вайне. Трэба было паслаць у рэдакцыю „Зоркі" малюнкі, якія адлюстроўвалі б ваенныя падзеі. І мне захацелася прыняць удзел у той віктарыне. Я паслаў малюнак, які расказваў, як партызаны ў нашай хаце вялі бой з фашыстамі (пісаў аб гэтым А. Амільяновіч у „Дэсанце „Дальній"). За сваю працу атрымаў я кніжную ўзнагароду і запрашэнне да далейшага супрацоўніцтва з „Нівай". Гэта была мая першая сустрэча з сваім часопісам.

Я надумаў стаць карэспандэнтам. Праз нейкі час паслаў ужо першыя заметкі з сваёй вёскі. Яны былі надрукаваны. І хоць я не ведаў добра беларускай літаратурнай мовы, пачаў прабаваць сваіх сіл. Пісаў спачатку на рускай мове, а „Ніву" чытаў, як першакласнік чытае свой „Элементар".

На пачатку 1959 года я ўжо быў добра знаёмы з журналістамі „Нівы". Колькі ж іх прайшло праз 20 год існавання газеты!

# ЯК Я СТАЎ КАРЭСПАНДЭНТАМ

„Ніва" сваім беларускім словам усё больш запускала карэнні ў маё сэрца. Яна стала неадлучным сябрам майго штодзённага жыцця. І зараз магу шчыра прызнацца, што дзякуючы свайму роднаму часопісу я вывучыў беларускую мову. Калісь з мяне смяяліся аднавяскоўцы, як я пачынаў гаварыць па-беларуску. Ды я не глядзе

што і вучыўся далей. Зараз ужо добра чытаю беларускія кніжкі, пішу па-беларуску ў „Ніву". З'яўляюся членам вялікай сям'і супрацоўнікаў. Трэба сказаць, што „Ніва" пачынае заваёўваць усё большую колькасць жыхароў нашых вёсак. Здабывае аўтарытэт і пашану ў гарадах усёй краіны, сярод дзяржаўных і партыйных устаноў. І мы ганарымся гэтым.

Ужо дваццаць год мінула ад майго знаёмства з „Нівай". Юбілей „Нівы" — гэта таксама мой юбілей. За той час, дзякуючы „Ніве", я пазнаў многа сяброў. Гэта мае калегі-карэспандэнты. Яшчэ год 10 таму назад на з'ездзе карэспандэнтаў я бачыў толькі маладых людзей. Амаль 70 працэнтаў. Гэта былі вучні. Зараз супрацоўнікамі газеты сталі людзі розных прафесій і ўзросту. І колькасць іх павялічылася ў некалькі разоў. Спадзяюся, што бліжэйшы час прынясе нам новыя прозвішчы супрацоўнікаў, а „Ніва" ў наступным сваім дваццацігоддзі павялічыць колькасць чытачоў і сімпатыкаў. Жадаю ёй гэтага ад усяго сэрца!

**Уладзімір Сідарук**

# КАЛІ БУДЗЕ РАМОНТ?

Балюча прадстаўляецца справа святліцы ў даволі вялікай вёсцы Семяноўка на Гайнаўшчыне. Дагэтуль Семяноўка была культурным цэнтрам нават для навакольных вёсак: Альхоўкі, Баб'яй Гары, Тарнопаля, Забродаў, Пасекаў, Семеняковшчыны, Лясной і іншых. У святліцы дзейнічалі мастацкія калектывы, дэманстравалася многа савецкіх фільмаў, адбывалася многа сустрэч, вечарын, спявалася многа песень, было весела. Але святліца даўно не рамантавалася і ў тым вось бяда. Цяпер у ёй неабходны: новы падмурак, падлога, вокны, дзверы і дах. Словам — капітальны рамонт. Мінаюць гады, але ніхто яго так і не робіць. Цяпер няма ў будынку ні дзвярэй, ні вокнаў. Дзеці веласіпедамі катаюцца па святліцы... Усе чакаюць рамонту і культурных мерапрыемстваў. Для ўладкавання гэтай справы неабходная дапамога гмінных улад у Нараўцы. Падавалі мы ў 36 нумары тыднёвіка „Ніва" ад 7 верасня 1975 г. тлумачэнні начальніка Нараўкаўскай гміны:

Urząd Gminy w Narewce udziela wyjaśnień w sprawie remontu świetlicy w Siemianówce.

W wyniku reformy administracji państwowej Urząd Gminy w całości przejął sprawy związane z remontem wyżej wymienionego obiektu. Opracowaliśmy dokumentację techniczno-kosztorysową na remont kapitalny na sumę 308 304 zł. Wystąpiliśmy z wnioskiem do Urzędu Wojewódzkiego w Białymstoku, do Wydziału Kultury i Sztuki o wprowadzenie do planów remontów obiektów kulturalnych na rok 1976. (Pismo z naszym znakiem: BW — 27/7/75 z dnia 24.07.1975 r.). Według zapewnień wydziału szczebla wojewódzkiego potrzebne środki zostaną zabezpieczone. Wstępnie zapewniliśmy wykonawcę, którym ma być Spółdzielnia Rziemieślnicza w Hajnówce.

Oddanie świetlicy do użytku przewidujemy w IV kwartale 1976 roku.

Былі мы ў Семяноўцы ў верасні гэтага года, заглянулі ў сярэдзіну святліцы, а тут яшчэ не пачыналі рамантаваць яе. А работы шмат. Цікава, ці рамонтная брыгада здолее ўправіцца з рамонтам да канца года. Пакуль што верым слову начальніка. Калі будзе адрамантавана семяноўская святліца, падамо ў газеце.

**Іван Непаседа**

## АД РОДНЫХ НІЎ

### ДА „НІВЫ"

*Ні апошні і ні першы*
*стаў у „Ніву" я пісаць,*
*ашчэ маю пара вершы,*
*буду вам іх пасылаць.*

*Аб прыродзі, аб народзі,*
*і аб хатах, аб сяле,*
*аб бабылях стараватых,*
*ну і крыху аб сабе.*

*Аб ранцісту праўду чысту,*
*як я быць ім ні спешу.*
*А чаму, то я пра гэта*
*зараз вам і напішу.*

*Сказаць праўду, ні таюся,*
*я ранцістам мог бы быць,*
*але, зноў вам прызнаюся,*
*ні хацеў бы я ім быць.*

*Без заботы, без клапотаў,*
*без ніякага труда,*
*без ніякае работы —*
*нападзе тады нуда.*

*Чакаць грошай ў лістаноша,*
*кулём на лаўцы ўсё сядзець?*
*Не хацеў бы я тых грошай,*
*лепш каб зноў адмаладзець.*

**Фёдар Хлябіч,**
Рыбакі

## ВЕСТКІ З БЕЛАСТОКА

### НОВАЯ МЭБЛЕВАЯ ФАБРЫКА

У пачатку верасня здадзены ў эксплуатацыю яшчэ адзін прамысловы аб'ект у нашай краіне — новая мэблевая фабрыка ў Беластоку па вул. Паўночна-Абвадовай. Пабудавана яна за 860 мільёнаў злотых. Гэта самы сучасны аб'ект. У прадукцыйных цэхах уведзена поўная аўтаматызацыя, сучаснае тэхнічнае абсталяванне: прэсы, пілы, шліфавальныя станкі. Таму і фабрыка будзе выпускаць салідна зробленыя мэблевыя камплекты на 750 мільёнаў злотых у год.

Побач з новай беластоцкай фабрыкай пабудавалі новую гасцініцу для рабочых і яшчэ ў гэтым годзе будуць пабудаваны два жылыя будынкі.

### КІРМАШ З РАМЕСНЫМІ ВЫРАБАМІ

У першай палавіне верасня ў Беластоку адбылося вялікае гандлёвае мерапрыемства — кірмаш рамесных вырабаў і паслуг, у якім удзельнічала 58 спулдзельняў з семнаццаці ваяводстваў. Розных тавараў было тут на 187 мільёнаў злотых. Пры гэтай нагодзе была адкрыта выстаўка сучасных узораў рынкавых вырабаў і цікавых прац вучняў — паслядоўнікаў рамяства.

Кірмаш карыстаўся вялікім зацікаўленнем у пакупнікоў. (ця)

## КАЖУЦЬ, ШТО...

*У Слойцы Шудзялаўскай гміны стаіць смешны прыпынак ПКС, аб якім ужо было ў „Ніве". Каб лепш было, стоячы на прыпынку, лічыць зайцаў, дзеці Алізаровіча са Слойкі патрошкі разбіраюць сцены гэтай дарожнай пабудовы. Прыедуць веласіпедам, адзін глядзіць, ці нікога не відаць, а другі змагаецца з прыпынкам. Людзі смяюцца, бо прыпынак стаіць не там, дзе трэба. А бацька не можа дзяцей дапільнаваць, бо часценька заглядае ў пляшку ды спявае: „Гарэліца ты мая, што ж ты вычаўпаеш, ты над намі, дуракамі, літасці не маеш!"*

**Ніяк**

## БЕЛАРУСКАЯ ЛІТАРАТУРА

АЛЯКСАНДР БАРШЧЭЎСКІ

# НАШАНІЎСКАЯ ПАРА

### АЛЬБЕРТ ПАЎЛОВІЧ — ЧАСТКА XIV

**Гумарыстычная плынь. Сямейны побыт.** У вершы „Выбар" пісьменнік разглядае сямейныя адносіны ў аспекце. Аўтар апавядае аб валасным старшыні, які пастанавіў вучыць свайго сына. Ідучы за панскай модай, старшыня пачаў клікаць настаўнікаў-гувернёраў і прыцэньвацца. Аплата за навуку аднак паказалася старшыні занадта высокай. Урэшце адзін з настаўнікаў за адукацыю сына запатрабаваў ад старшыні трыста рублёў. Старшыня, кіруючыся адвечнымі сялянскімі меркаваннямі, прыйшоў да вываду, што за трыста рублёў ён можа купіць жарабца. Кандыдат у настаўнікі дасціпна адказвае, што не вучачы сына будзе мець з яго другога жарабца.

*Ну і купляйце сабе, мне спрачацца не след.*
*Спагадаю я вам, гаспадару,*
*І прынамсі, старшыня, выбачай за атвет,*
*Жарабцоў тады будзеш мець пару.*

Досыць цяжка выступаючы ў гэтай страфе гумар залічыць да элегантных відаў камізму. Аднак падобныя звароты — гэта досыць частыя госці ў камічных вершах Паўловіча.

З слоўным гумарам маем дачыненне ў вершы „Перасцярога". Маці свайму сыну, які ідзе на рэчку купацца, крычыць, каб ён не вяртаўся дахаты, калі ўтопіцца.

*— Не лезь у рэчку, бо глыбока,*
*Абходзь дзе-нібудзь па сухому,*
*Бо як утопішся, то помні,*
*Лепш не прыходзь тады дадому.*

Жанчына не заўважае недарэчлівасці сваіх слоў. У гэтай антылагічнасці і праяўляецца слоўны камізм.

Па сутнасці ўсе прадстаўленыя дагэтуль вершы з сямейнага цыкла закраналі адносіны паміж бацькамі і дзецьмі. У большасці выпадкаў гумар Паўловіча меў акрэсленыя маральныя мэты. Быў ён накіраваны і супроць бацькоў і супроць дзяцей. У бацькоў высмейваў Паўловіч такія рысы, як лібералізм у адносінах да дзяцей, бескантрольнасць, недахоп сямейнай дысцыпліны, наіўнасць, веру ў тое, што дзеці, дарослыя, самі сабой паразумнеюць. У дзецях паэт высмейваў брак паслухмянасці, працавітасці, адказнасці, прывязанасці да навукі; схільнасць да п'янства, недахоп пашаны да бацькоў.

У вершах „Спадчына" і „За справункамі" пісьменнік паказвае ў гумарыстычным асвятленні адносіны паміж мужам і жонкай.

„Спадчына" гэта ілюстрацыя размовы паміж старой жанчынай і яе мужам. Размова датычыць таго, каму дастанецца іх маёмасць. Жанчына гаворыць, што багацце забяруць дзеці. Стары, аднак, напамінае жонцы, што ў іх няма дзяцей. Жонка аднак знаходзіць адразу выхад:

*— Стары дурны! Не будзе дзетак, —*
*Тады унукі разбяруць.*

Тут зноў маем дачыненне са слоўным камізмам. Жанчына ў разгары палемікі не заўважае абсурднасці сваіх слоў, з якіх вынікае, што не маючы дзяцей, можна мець унукаў.

Верш „За справункамі" трэба аднесці да найбольш удалых гумарыстычных твораў Паўловіча. У творы пісьменнік трапна характарызуе адносіны паміж пажылым мужам і маладой жонкай. Паслухайма „літанію" жонкі, спяваную ў адрас мужа:

*Спорка ў іх з сабою цягнецца два тыдні.*
*Як іржа жалеза або футра моль,*
*Пятрука з'ядае жонка маладая;*
*Бедны усё церпіць, крые ў сэрцы боль.*
*Ажаніўся — маеш! — Знасі крыж да скону.*
*А аб што ў іх спрэчка — проста адзін смех!*
*Спраў ёй, кажа, сукню, капялюш, пярсцёнак,*
*Сукня без гарсэту, бач, вісіць, як мех.*
*Грабянёў не маю, шпількі аніводнай,*
*За табою, кажа, жыць я не магу,*
*Ты усё скупішся, ты шкадуеш грошы,*
*Мяне маладзеньку маеш за слугу.*

Кожны сямейны чалавек у сваім жыцці знойдзе пацвярджэнне трапнасці слоў пісьменніка. І хаця ён кульмінацыю камізму перасоўвае ў заканчэнне верша — калі жонка з палукашкам выпадае на дарогу, а муж прыкідваецца, што гэтага не бачыць і едзе дарогай, то ўсё ж такі істота камізму якраз у жаночых прэтэнзіях, прыведзеных намі.

# ТРЫБУНА чытачоў

### ШТО Ў НАС?

Пра вёску Зубава ў Бельскай гміне пісалі ў „Ніве" ўжо не раз. Наша вёска прыгажэе з дня на дзень. Прайшло гарачае і цяжкае лета, калі сялянскі пот цёк струёю. Цяпер сяляне заняты яшчэ ў полі, але яно ўсё больш пусцее. З дрэў сыплецца лісцё... Наступіла восень.

**Джэны А.**

### АБЯЦАЮЦЬ, АБЯЦАЮЦЬ...

Ужо год ці два таму абяцалі, што аўтобус, той, што з Бандароў у Беласток ідзе, будзе таксама ў Луку прыходзіць. А яго як не было, так і няма.

Потым зноў казалі, што ад 1 чэрвеня гэтага года будзе хадзіць аўтобус з Лукі ў Гайнаўку. І зноў няма. А вельмі прыдаўся б! Інакш трэба ісці 6 кіламетраў аж у Семяноўку.

Цікава, як доўга яшчэ будуць абяцаць нам аўтобус?

**Кара-кум**




### Я ХАЧУ ВАМ СКАЗАЦЬ...

Перш за ўсё я хачу
Напісаць вам, сябры,
Што у сэрцы сваім я скрываю.
А чаму, я вам праўду скажу,
Бо я школы не маю.
І таму, хто бы сколь
І куда не прышоў,
Я пра мову сваю запытаю,
Бо хачу, каб жыла
І у вечнасць зайшла
Беларуская мова радная.
Вельмі шчыра усім
Я падзяку пішу
Паэтам і пісьменнікам „Нівы",
Тым, што славяць наш кут.
Я каб бізка жыла,
Ды ўчона была,
Не прагнаў б мяне вы адгэтуль.
Хаця многа й раблю,
Но з ахвотай пішу —
Слаўлю мову сваю беларуску.

**Люба Саковіч,**
Юшкаў Груд

### КАХАННЕ

*Спаткала хлопца раз на раздарожжы:*
*Быў малады, вясёлы і прыгожы.*
*Прамы і светлы быў юнацкі позірк,*
*Што не адну дзяўчыну заваражыў.*
*Я бачу вочы хлопца маладога,*
*І заклік іх мацнейшы ад усёга!*
*Пайду за імі і усё пакіну,*
*Каб нават свет на лоб, на шыю рынуў.*
*За адну шчасця горкую хвіліну*
*Пайду за імі і усё пакіну.*
*Пайду за імі...*

**Анна Яканюк**

---

залі сябе ў бітве пад Масквой, і пазней брыгада ператварылася ў адну з галоўных баз, дзе падрыхтоўваліся і адкуль закідаліся ў тыл праціўніка разведвальна-дыверсійныя групы і атрады. Камандзірамі падраздзяленняў былі Станіслаў Ваўпшасаў, Дзмітрый Мядзведзеў, Мікалай Пракапюк, Аляксандр Рабцэвіч... Яны ўжо сфарміравалі спецыяльныя атрады і дзейнічаюць у тыле ворага ці вось-вось адправяцца туды. Яму ж, Арлоўскаму, даводзіцца толькі пачынаць гэтую работу.

Гітлераўскія войскі, спрабуючы ўзяць рэванш за буйныя паражэнні зімой 1941-1942 года, на многіх участках фронту зноў перайшлі ў наступленне. Чырвоная Армія вяла жорсткія баі з праціўнікам пад Севастопалем і Харкавам. Усё часцей па радыё і ў газетах паведамлялася аб дзёрзкіх аперацыях беларускіх, украінскіх, бранскіх, ленінградскіх партызан.

Туды, да народных мсціўцаў, усім сэрцам ірваўся і Кірыла Арлоўскі. Ірваўся не проста ў тыл ворага і не проста ў Беларусь, а ў лясы пад Баранавічы, дзе ён партызаніў яшчэ ў дваццатыя гады, добра ведаў усе сцежкі-дарожкі і дзе, напэўна, яшчэ помняць яго — не павінны забыць! — баявыя сябры з мясцовых жыхароў.

(Працяг будзе)

## ЦЯГНІК ПОЎНЫ МОЛАДЗІ

У апошні дзень жніўня вяртаўся я поездам з Гайнаўкі ў Беласток. Поезд чакала многа школьнай моладзі. Я проста прызабыў, што набліжалася 1 верасня і будзе новы навучальны год у сярэдніх школах.

Я ваенны інвалід і перанёс інфаркт. Чакаў у Бельску поезда з Седльцаў. Вельмі змучыўся, бо было горача і не было дзе сесці. З аптымізмам думаў, што адпачну, калі сяду ў поезд. Мне і ў галаву не прыйшло, што не будзе дзе сесці.

І вось поезд. Увайшоў у двухпавярховы вагон, у якім ужо ўсе месцы паспелі заняць вучні. Я ўзяўся рукою за полачку і стаю. Усе бачаць, што я адзіны старэйшы чалавек і стаю. Мне здавалася, што седзячыя вучні нават спачувалі мне, ледзь на нагах трымаўшамуся, але кожны з іх, відаць, думаў, што гэта не яго справа. Жанчына ў маім узросце хацела аблегчыць маю долю, але я не згадзіўся, бо як не кажы, я ўсё ж такі мужчына.

Школьнікі прыглядаліся ўсяму гэтаму, але не ўстаў ніхто. Але яны забылі, што самі будуць старымі. Я хворы толькі фізічна, а ў іх і душа хворая, і сэрца хворае, і сумленне хворае.

Сорамна сказаць, але, як на іронію лёсу, я з'яўляюся членам камісіі супрацоўніцтва з моладдзю пры адным з гурткоў ЗБоВіД у Беластоку.

Учора адна з настаўніц пазваніла, каб прыйшоў на сустрэчу з гарцэрамі. Не пайшоў і не пайду. Моладзь мяне перастала цікавіць.

**Васіль Петручук**

### ЗА ШТО ПЛАЦІЦЬ?

Ужо другі год праходзіць меліярацыя сенажацяў у вёсцы Белкі (гміна Нарва) на ўрочышчы „Града".

Другі год ідзе, як туды не заглядае працаўнік водных суполак, які даглядае меліярацыйныя равы. Саюз водных суполак у Беластоку прысылае паведамленні аб уплаце грошай за кансервацыю раваў. Людзі грошы плацяць і не ведаюць за што, работа яшчэ не закончана.

Цікава, што на гэта адкажа Беластоцкі саюз водных суполак?

**„Ярош"**

### ДОБРА ПРАЦУЕ БЕЛЬСКІ ЛОК

У высокім, прыгожым будынку на вуліцы 1 Мая сядзібу сваю атрымала бельская арганізацыя ЛОК. Кіраўніком тут з'яўляецца стары ўжо стажам працаўнік Міхальчук, які працаваў яшчэ ў ЛПЖ. „Цяпер лягчэй працаваць, — кажа таварыш Міхальчук, — чым даўней, — памяшканне арганізацыі было цеснае. Праводзім розныя курсы для маладых людзей. Найбольш асоб прыняло ўдзел у курсе шафёраў. І так, курсы шафёраў у год заканчвае больш 200 маладых людзей. Да лепшых працаўнікоў арганізацыі трэба залічыць Якуба Пашко, Яна Мальца, Эдмунда Шадуру, Кшыштафа Кісяля".

**Аляксандр Раманюк**

### НАПЭЎНА ПАТРЭБНАЯ

У вёсцы Вітава, Дубіцкай гміны, ёсць чатырохкласная школа. Школьны будынак даволі вялікі. Палавіна яго стаіць зараз пустая, а мясцовая моладзь хоча зрабіць у ёй святліцу. Вёска стаіць у зручным месцы — побач бяжыць чыгунка і тут распачынаецца славутая Белавежская пушча. Такі аб'ект як святліца напэўна патрэбны жыхарам вёскі. Аднак кампетэнтныя ўлады, ад якіх залежыць лёс гэтай справы, неяк абыякава адносяцца да просьбы маладых вітаўцаў.

**П. Дубовіч**

### НОВЫЯ СЕЛЬСКАГАСПАДАРЧЫЯ ШКОЛЫ

1 верасня пачала працу Асноўная сельскагаспадарчая школа ў Гурным каля Гайнаўкі. Яна з'яўляецца філіялам групы сельскагаспадарчых школ у Бельску. Вучыцца ў ёй 40 чалавек, працуе пяць настаўнікаў. Дырэктарам школ з'яўляецца Аліна Хіліманюк.

Неўзабаве пачне вучобу старэйшае пакаленне ў завочным сельскагаспадарчым тэхнікуме. Патрэба гэтых школ ужо даўно адчувалася ў ваколіцах Гайнаўкі.

**Мікалай Няплоха**

## АЎТОБУС — № АМ 03-32

І зноў на старонках „Нівы" ПКС.

Пачну ад фактаў: Дзень — 19.08.1976 г. (чацвер, траса — Бельск-Гайнаўка-Нараў-Беласток. Гадзіна — $15^{10}$, ад'езд з Бельска). Нумар аўтобуса — АМ 03-32. Бакавы нумар — 121448.

Мо хто падумае: навошта ён так дакладна выпісвае ў пунктах? Адкажу: баюся, каб ПКС зноў не вынайшоў нейкай прычыны і каб не выкруціўся сенам. Ужо так раз было. Я таксама пісаў пра нядбайнасць працаўніка ПКС. У адказе на крытыку напісалі, што не пададзена гадзіна ад'езду гэтага аўтобуса.

Цяпер да справы. Спамянуты аўтобус быў перапоўнены. Многа людзей стаяла. О. М. стаяў блізка ад кандуктара, дык яму людзі падавалі грошы, каб купляў білеты. Але вядома хіба ўсім, што многа шафёраў і кандуктараў забіраюць грошы, а не выдаюць білетаў. Гэты кандуктар таксама хацеў гэтак зрабіць. Калі людзі давалі грошы на білет да Гайнаўкі, дык ім выдаваў білет, а каму бліжэй — не выдаваў. А. Б. з Галадоў пачала нават сварыцца, калі ёй не выдаваў білета. О.М. — жыхар Галадоў дастаў грошы на 5 білетаў да Галадоў і сказаў кандуктару, каб яму іх даў. А той: „давай грошы, білеты пазней". О. М. не хацеў сварыцца — паўтарыў толькі, каб шафёр білеты даў, а то грошай не дастане. Кандуктар сваё. О. М., не чакаючы аддаў грошы назад тым, хто ім перадаў і выняў свой месячны білет, каб яго скасаваць. Кандуктар сказаў, каб паказаў пасведчанне на білет. О. М. паказаў, а кандуктар вырваў яго і ў... кішэню. „Калі ты такі разумны, дык папамятаеш, прыйдзеш на Мальмеда 2".

Мала таго. Затрымаў аўтобус і хацеў выкінуць чалавека на дарозе. Потым аднак крыху апамятаўся, бо пайшоў у зад аўтобуса і выдаў білеты. Відаць таму, каб, калі справа дойдзе да дырэкцыі, мець нейкае вытлумачэнне.

Цікава, ці яму гэта паможа, ён жа хацеў абкрасці ПКС, бо грошы, належныя за язду, хацеў сабе прысвоіць.

**В. Анапюк**

## КУРГАНЫ ЛЯ НАРАЎКІ

На тэрыторыі гміны Нараўка ў Белавежскай пушчы стаяць тры цікавыя курганы з X-XIII вякоў. Наведваючы гэтую мясцовасць, варта паглядзець на гэтыя цікавыя доказы славяншчыны ў пушчы. Адзін з іх знойдзеце вы ў аддзяленні 124 БД у 40 м на поўнач ад ракі Ялёнкі. Мае ён 0,8 м. вышыні і 15 м даўжыні. Другі ляжыць на скрыжаванні пададдзяленняў усходне-заходніх і паўночна-паўднёвых — каля 20 м на поўнач ад ракі Ялёнкі на яе левым беразе. Яго даўжыня 15 м, вышыня — 1 м. Аб славянскім асадніцтве сведчыць таксама трэці курган у 124 Ц аддзяленні, 50 м на поўнач ад ракі Ялёнкі. Яго даўжыня 20 м, вышыня 1 м. Два апошнія крыху знішчаны.

**Аляксандр Закройшчык**

## ГС вырашыў праблему

Два гады таму назад я пісаў аб праблеме, якая хвалявала жыхароў Чаромхаўскай гміны. Датычылася яна недапаведнага размяшчэння філіяла ГС, касы СОП і ГС-аўскіх складаў. Справа ў тым, што тры гэтыя пункты знаходзіліся адзін ад другога ў некалькіх сотнях метраў.

Але ўжо ад жніўня гэтага года праблема вырашана. Кляшчэлеўскі ГС мадэрнізаваў будынак ВДТ. І так, змяшчаецца тут зараз рыбная секцыя, манапольная, бумажная і хатніх прыладаў. А таксама мэблевая, дзе можна купіць мэблю, тэлевізар, сціральную машыну, матацыкл і гэтак далей.

На першым паверсе будуць размяшчацца філіялы ГС і СОП. Побач ВДТ — склады ГС. Гэта вялікая палёгка жыхарам гміны і дзякуй за гэта кляшчэлеўскаму ГС.

Хацелася б, каб кожная праблема была так па-гаспадарску вырашана, толькі не так доўга. Змянілася б тады рэпутацыя аб кляшчэлеўскіх гандлёўцах. Бо няма рэчаў немагчымых. **(ус)**

### БАНК ПАЗЫЧАЕ

Існаванне банкаў у гмінах — вельмі выгодная справа для людзей. Тут можна заўсёды падбудаваць свой бюджэт. Розныя ёсць патрэбы ў гаспадарцы. І вось у нараўкаўскім банку можна атрымаць грошы, так як і ў іншых банках: на сельскагаспадарчую прадукцыю, пакупку мінеральных угнаенняў, корму, будаўнічых матэрыялаў. Можна атрымаць крэдыты на ратальныя пакупкі.

За шэсць месяцаў г.г. жыхары гміны Нараўка пазычылі ў сваім банку 2.142.000 зл. у тым ліку на сельскагаспадарчую прадукцыю — 1.100.000 зл. Аднак план пазычак не выкананы. Хоць у некаторых галінах і перавыканалі, як будаўніцтва і ратальны продаж. Вынікае гэта з спецыфікі гміны. Большасць жыхароў, апрача сельскай гаспадаркі, працуе яшчэ дадаткова ў лесе, на чыгунцы, ці на цагляным прадпрыемстве. Блізкасць цэглы і заробкі дазваляюць многім будавацца. Меншае зацікаўленне праяўляецца да сельскай гаспадаркі. Таму начальнік гміны і ліквідаваў 8 гаспадарак, бо яны не вялі супольнай гаспадаркі.

Аднак маем і добрых гаспадароў. Тут на мадэрнізацыю хлявоў пазыкі ўзялі Янка Сухадола з Тарнопаля і Янка Мелеш з Гушчавіны. А Васіль Харкевіч з Лазовага ўзяў пазыку — 420 000 зл. на мадэрнізацыю двух хлявоў для кароў. Гэта малады чалавек і стараецца ён весці сваю гаспадарку добра. Ужо мае 18 штук кароў.

Варта яшчэ сказаць пра вялікую і адказную працу Т. Гацуты — дырэктара банка. Ён заўсёды дапамагае сялянам і адначасова вядзе кантроль выдадзеных грошай, каб ішлі яны ў вызначаным напрамку — на развіццё сельскай гаспадаркі.

**Аляксандр Закройшчык**

### РАМАНТУЮЦЬ, АЛЕ ЯК?

Ужо другі ці трэці раз у гэтым годзе быў спынены рух на шашы Дубічы Царкоўныя-Гайнаўка. Усе лёгкія і цяжкія машыны едуць праз Войнаўку-Арэшкава. Колькі лішніх кіламетраў.

Пытанне: чаму спыняюць рух? Адказ: бо рамантуюць шашу. Але... як рамантуюць? Нават смешна сказаць. Тут зусім не відаць ніякай работы.

**М. Панфілюк**

## У АДКАЗ НА НАШУ КРЫТЫКУ

### ДА ПУБЛІКАЦЫІ: „ПА БАКАХ РАКІ БЕЛАЙ" — „Ніва" № 27 з 4.VII.76

Адказвае: **Naczelnik miasta Bielsk Podlaski.**

W odpowiedzi na notatkę prasową w sprawie wykonania wodociągu w Bielsku Podlaskim na ulicach położonych po prawej stronie rzeki Białej, wyjaśniam co następuje.

Część miasta położona po lewej stronie rzeki jest dużo większa od prawej strony. Na terenach tych zgodnie z planem ogólnym zagospodarowania miasta zlokalizowane są osiedla mieszkaniowe budownictwa wysokiego, jak też i budownictwa niskiego n.p. osiedla Spółdzielni Mieszkaniowej i rad narodowych, osiedle domków jednorodzinnych w obrębie ulicy Żwirki i Wigury, Mickiewicza i Waszkiewicza, osiedle domków jednorodzinnych przy ul. Myśliwskiej.

Tereny, na których prowadzi się te budowy, nie są uzbrojone. W tej sytuacji wykonanie uzbrojenia jest sprawą niezbędną i pierwszoplanową, na którą wydzielone są specjalne środki finansowe z tzw. miejskiego funduszu mieszkaniowego, z którego natomiast, nie można finansować uzbrojenia istniejących ulic.

Drugą istotną sprawą przy budowie uzbrojenia ulic jest zabezpieczenie wykonawstwa. Przedsiębiorstwo Gospodarki Komunalnej i Mieszkaniowej, wykonujące tego rodzaju prace na terenie miasta, posiada małą moc przerobową. Rocznie zdolne jest wykonać około 2 km linii wodociągowej. Biorąc pod uwagę wielkość przerobu w stosunku do niezbędnych potrzeb, uzbrojenie nowych osiedli Przedsiębiorstwo będzie mogło wykonać dopiero po 1980 roku. W związku z tym, w programie prac wodociągowych i kanalizacyjnych, ulice położone po prawej stronie rzeki Białej nie są przewidziane do wykonania do 1980 roku.

Sytuacja na tym odcinku ulegnie poprawie dopiero po 1980 r.

Obecnie w związku z budową osiedla mieszkaniowego Państwowego Gospodarstwa Rolnego w Bielsku Podlaskim zlokalizowanego przy ul. Armii Czerwonej, linia wodociągowa przeprowadzona będzie wzdłuż ulicy Okrzei i częściowo Armii Czerwonej, leżących po prawej stronie rzeki.

Naczelnik Miasta
**inż. Jan Sadowski**

**„Niwa" — Tygodnik RSW „Prasa—Książka—Ruch". Skr. poczt. 149. 15-950 Białystok. TELEFON 2-32-41. Wydawca Przedsiębiorstwo Wydawniczo-Kolportażowe RSW w Białymstoku. PRENUMERATA: Oddziały „Ruchu", urzędy pocztowe i listonosze. Indeks 36911/36671.**

# ЗАБОЙЦА ВЯРТАЕЦЦА

**(З УСПАМІНАЎ НЕВЯДОМАГА ДЭТЭКТЫВА)**

I

У дзесяць раніцы раздаўся званок: на вуліцы Кюльшо-Ло здарылася забойства. Праз пяць мінут мы былі ўжо на месцы і ўзломлівалі дзверы. Труп ляжаў на падлозе.

— Гэта я званіў вам, — сказаў ён. — Абрыдла. Трэці дзень ляжу мёртвы, і ніхто мяне дагэтуль не выявіў. Суседзі, называецца... Ды што гаварыць, — труп безнадзейна махнуў рукою, — каму патрэбны стары халасцяк... Хоць здохні, ніхто не зверне ўвагі...

— Выбачайце, — ветліва, але цвёрда спытаў я, — пакінем пакуль нараканні і вернемся да справы. Хто вас забіў?

— Так я вам і скажу! Вы за гэта грошы атрымліваеце, вы і шукайце забойцу. А я, выбачайце, прагну спакою. Вечнага.

2

На жаль, ніхто з кватарантаў дома сапраўды нічога і ніколі не бачыў. Дакладней, адзін з іх, прадаўшчык гастранома, бачыў бышцам нейкага мужчыну, які выходзіў з кватэры забітага. Ён толькі ніяк не мог успомніць, было гэта ў дзень забойства, за тыдзень да гэтага ці на мінулыя каляды.

— Ён быў высокі, худы і лысы, — сказаў прадаўшчык, — калі я ўбачу яго, я пазнаю гэты твар з тысячы.

3

Ува мне жыла ўпэўненасць, што забойца абавязкова вернецца на месца злачынства, таму я пакінуў сваіх людзей у кватэры забітага і ў пад'ездзе. Чакаць, чакаць, чакаць — што яшчэ мы маглі зрабіць?

Праз чатыры дні позна вечарам нехта асцярожна націснуў на ручку дзвярэй. Забойца вяртаецца! Мы рыўком расчынілі дзверы. На парозе стаяў прадаўшчык гастранома.

4

— Я... я... я вас шукаў, — прамармытаў ён. — Я ўбачыў забойцу! Сёння ён быў у магазіне. Ён, ён, я не памыляюся, я гэты твар пазнаю сярод тысяч!

— Чаму вы нам не пазванілі?

— Я... я... я баяўся! Калі ён увайшоў у магазін, ён так дзіка азіраўся па баках. Ён купіў трыста грамаў салямі і хутка выйшаў. Але ён вернецца, ён абавязкова вернецца!

— Забойца вяртаецца на месца злачынства, а не ў гастраном, — насмешліва сказаў я.

Мае падначаленыя зарагаталі.

5

Праз два дні мы арыштавалі ў гастраноме забойцу. Ён вырываўся з нашых рук і ўвесь час паўтараў: „Пусціце мяне, мне трэба!"

— Я б на вашым месцы не спяшаўся, — сказаў я, і мае падначаленыя зарагаталі. — Ды куды ж вам трэба?

— Мне патрэбна кніга скаргаў і прапаноў, — сказаў забойца.

Мы прынеслі яму кнігу скаргаў і прапаноў. Ён выцягнуў ручку і напісаў: „Прадаўшчык Баровы вельмі ветлівы і далікатны, ніколі не сустракаў у Будапешце другога такога прадаўшчыка. Купляць у яго — адна прыемнасць".

Калі забойцу вывелі, прадаўшчык, які бачыў, што той напісаў, сказаў мне:

— Цяпер вы разумееце, чаму я быў упэўнены, што ён вернецца ў магазін? Я яго абслужыў так, што ён не мог забыць гэтага.

**Д'ердзь Мікеш**
Венгрыя

— *Гэты тып сочыць нас у жо ад першага адрэзка...*

# НІЎКА

*Усё людское нам не чужое.*

## ВЫТЛУМАЧЫЎ

Унук да дзядулі: — Дзядуля, а табе страшна ноччу вартаваць?

Дзядуля: — Страшна, Ваня, аж пакуль не засну.

## НА ШЫРОКІМ СВЕЦЕ

Старшыня паважанага англійскага клуба паведамляе аднаму з членаў клуба:

— Учора мы злавілі за руку шулера.

— І вы, вядома, тут жа выключылі яго з клуба.

— Не яшчэ. Мы патрабавалі, каб спачатку ён навучыў нас сваім трукам.

✲

На пляжы паліцэйскі дакараў маладую дзяўчыну:

— Што б сказала ваша маці, убачыўшы вас у гэтым касцюме?

— Яна б шмат што сказала, — адказала дзяўчына. — Гэта ж яе бікіні...

✲

— О, пане Якабсон, вы такі вясёлы. Што здарылася?

— Ах, не кажыце, пане Свенсан! Я так ганаруся сваім сынам — за прыкладныя паводзіны яго звальняюць з турмы на паўгода раней тэрміну!

## УВАЖЛІВАЯ ПРЫЧЫНА

*Аднойчы я ішоў па скверы*
*І ўбачыў міліцыянера,*
*Хоць і не помню, праўда, звання,*
*Ды не забуду ўсё ж спаткання.*

*Мяльком зірнуўшы на пагоны,*
*Пабег я на ліхтар чырвоны,*
*І тут свісточак раптам чую...*
*За парушэнне штраф плачу я.*

*Такому міліцыянеру*
*У дзесяцікратным бы памеры*
*Плаціў я штраф за парушэнне*
*Пакуль дазволіла б кішэня...*

*Была для гэтага прычына:*
*У форме — стройная дзяўчына...*

**Мечыслаў Шаховіч**



...Ён суцяшаў сябе тым, што сёння зрабіў брак не горшы ад учарашняга.

## КАСТУСЬ У ГОРАДЗЕ

— Грамадзянін міліцыянер, пяць хвілін таму грабежнік зняў з маёй рукі залаты гадзіннік!

— Чаму ж вы не паклікалі мяне на дапамогу адразу?

— А я баяўся адкрыць рот: у мяне ж залатыя зубы.

## МІКОЛКА

Дзеці пабеглі да настаўніка:

— Міколка ўпаў у ваду!

— Спадзяюся, вы выцягнулі яго?

— Так.

— Вы зрабілі яму штучнае дыханне?

— Мы спрабавалі, але ён вырваўся і ўцёк...

## ВЫХАД

— І потым, — рыдаючы расказвае жонка, — муж пайшоў купіць мне сумачку і так і не вярнуўся. Што б ты зрабіла на маім месцы?

— Купіла б новую сумку.

**Байкі ў прозе**

## ПЕНЬ

Прабуючы перасунуць цераз Пень — рэштку некалі магутнага Дуба, нямала людзей расквасіла сабе насы.

А пень шумеў:

— Я з зямлёю-мацеркай, як і калісь, моцнымі карэннямі звязаны.

## МУРЗА І МОСЬКА

Сабака Мурза сустрэў Моську:

— Ну, як, Моська, усё на Слана гаўкаеш?

— Што я, дурная, як тыя мае продкі? — дзяўкнула Моська. — Гэта толькі Барбос гаўкае на нашага шаноўнага Слана. Таму і ўласнай буды не мае. А я ўжо трэцюю мяняю!

**Юрый Ярмыш**



*Жанглёр — маніпулятар.*

*Па просьбе Аліцыі Лукшы з Лукі змяшчаем песню*

## Dziś prawdziwych Cyganów już nie ma

**słowa: Agnieszka Osiecka**
**muzyka: Andrzej Zieliński**
**śpiewają: Maryla Rodowicz i Stan Borys**

Dziś prawdziwych Cyganów już nie ma,
bo czy warto po świecie się tłuc,
pełna miska i radio „Poemat",
zamiast krzyku, co zrywał się z płuc...

Dawne życie poszło w dal,
dziś pierogi, dzisiaj bal,
tylko koni, koni żal,
tylko koni żal!

Dawne życie poszło w dal,
dziś na zimę ciepły szal,
tylko koni, koni żal,
tylko koni żal.

Dziś prawdziwych Cyganów już nie ma,
cztery kąty i okna ze szkła,
egzaminy i szkoła i trema,
i do marsza harmonia nam gra.

Dawne życie... itd.

Dziś prawdziwych Cyganów już nie ma,
i do szczęścia niewiele już brak,
pojaśniało to życie jak scena,
tylko w butach przechadza się ptak.

ГУМАР З

## АДКАЗАЛА

Сядзіць аднойчы бедная дзяўчына ў карчме і абедае. Аж уваходзіць вялікі паніска і пазяхае на ўвесь рот.

— Ой, паночку, вы яшчэ і мяне з'ясце, — сказала жартуючы дзяўчына.

— Я цяляціны не ем! — горда адказаў пан.

— Йой, я забыла, што аслы толькі сена ядуць, — адказала ўсміхнуўшыся дзяўчына.

*З паляўнічых прыгодаў.*

# Курёзы

## ВЕЛАСІПЕД ЗАМЕСТ... МОПСА

Сумныя часы насталі для карлікавых пудзеляў, кітайскіх мопсаў і іншых любімцаў модніц Захаду, піша англійская газета „Дэйлі мірар". Іх месца трывала заняў карлікавы веласіпед, які... водзяць на павадку. Гэтыя машыны-цацкі з'явіліся ў пачатку купальнага сезона ў невялікім французскім курортным гарадку Сен-Трапез і за кароткі час сталі любімым хобі сумуючых дам. Як гаворыцца, чым бы ні цешыліся... А паколькі сапраўднае хобі не церпіць канкурэнцыі, пацярпелі „чатырохногія цацкі". Гэта натуральна, — заявіла адна з уладальніц міні-веласіпеда карэспандэнту „Дэйлі мірар". — Мой любімец не пэцкае ў кватэры, не гаўкае па начах і, нарэшце, не патрабуе яды..."

## НА ЛАЎЦА і... ЗМЕЙ БЯЖЫЦЬ

Марскія змеі — адны з самых ядавітых. Іх адлоў — справа далёка не небяспечная, але прыбытковая. Ва ўсякім выпадку, на думку сінгапурскага часопіса „Стэмфард джорнэл", цэны на скуру кракадзіла за апошнія гады настолькі ўзраслі, што сумачка з яе па кішэні хіба што жонкам і дочкам мільянераў. А скура марскіх змей не ўступае па прыгажосці і трываласці кракадзілавай, аднак намнога больш танная. Эксперты лічаць, што для Філіпін змяіны промысел хутка стане адной з важных крыніц атрымання замежнай валюты. Пакуль што на востраве Гата ўжо абсталяваліся пяць „спецыялізаваных" кампаній.

Міжэ намі

*Калі хочаш крытыкаваць анёлаў, праслаўляй багоў.*